Асіповіцкая грамадска-інфармацыйная газета

# Запаветы ЛЕНІНА

N 62 (8338)

Заснавана 10 чэрвеня 1931 года

СУБОТА, 12 жніўня 2000 года

Осиповичский районный исполнительный комитет и районный Совет депутатов поздравляют работников строительных организаций с профессиональным праздником — **ДНЕМ СТРОИТЕЛЯ.**

*Искренне желаем вам крепкого здоровья, благополучия, трудовых успехов и уверенности в завтрашнем дне.*

Осиповичская районная территориальная избирательная комиссия размещается по адресу: **г. Осиповичи, ул. Сумченко, 33, райисполком, корпус 2, кабинет № 207, тел. 22-2-55.**

## АБ ТЫМ, ШТО ХВАЛЮЕ

У сераду на інфармацыйную нараду наконт правядзення ў раёне адзінага дня інфармавання насельніцтва сабралася нямала звязаных з гэтай справай людзей. Тэма вызначанай размовы ў жніўні, як адзначыў намеснік старшыні райвыканкама У.І.Шаўчэнка, хвалюе кожнага — ,,Аб стане правапарушэнняў, злачынстваў, п'янства і наркаманіі ў Магілёўскай вобласці і рабоце органаў улады па іх прафілактыцы". І выступленне в.а. начальніка кадравага апарату РАУС В.А.Андрэйкова, ,,заземленае" на стане спраў у нас, успрымалася сабраўшыміся, ўважліва. Што цалкам зразумела, бо вышэй, чым на Асіповіччыне, узровень злачыннасці на 10 тысяч насельніцтва толькі ў чатырох рэгіёнах: у нас — 80,2, у Бабруйскім раёне — 149,4, Ленінскім г. Бабруйска — 97,1, Магілёўскім — 91,6, Бялыніцкім — 86, а наогул па Магілёўскай вобласці гэты паказчык адпавядае лічбе 64,4. За 7 месяцаў па ўсіх лініях службаў у нас зарэгістравана 607 злачынстваў, што на 9 — 1,5% — больш, чым за такі ж леташні перыяд, а раскрыццё склала 69,7%, тады як тады было 72,4, нават з гэтых лічбаў бачна, што крымінагенная абстаноўка на Асіповіччыне ніякім чынам не дазваляе заспакойвацца, яна па-ранейшаму складаная. Узяў, дарэчы, слова па гэтаму пытанню і прадстаўнік інфармацыйнай групы аблвыканкама У.З. Мацвіенка — намеснік начальніка ўпраўлення культуры.

А перад гэтым прысутныя з цікавасцю праслухалі выступленне нашага дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу рэспублікі С.Б.Ліўшыца, які ўзначальвае Пастаянную камісію па пытаннях эканомікі. Сямён Барысавіч даволі падрабязна расказаў аб выніках работы беларускага парламента і адказаў на ўсе цікавіўшыя залу пытанні. Загадчыца арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама Н.М.Змачынская праінструктавала ідэалагічны актыў раёна наконт парадку вылучэння прадстаўнікоў у склад участковых камісій, што таксама прыйшлося якраз дарэчы: да выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь застаецца не так і многа часу — яны адбудуцца, як вядома, 15 кастрычніка.

**В.НАВІЦКІ.**

## ВІНШУЕМ!

За шматгадовую і бездакорную працу ў будаўнічай галіне і ў сувязі з прафесійным святам — Днём будаўніка вадзіцель Асіповіцкай перасоўнай механізаванай калоны № 273 **Андрэй Уладзіміравіч ВАЛЮК**, тынкоўшчык-абліцоўшчык Асіповіцкага будаўнічага ўпраўлення № 7 Бабруйскага будтрэста № 13 **Валянціна Васільеўна КОЗЕЛ**, механізатар, вадзіцель МАЗа будаўнічага ўпраўлення № 89 **Сяргей Сяргеевіч СУГАКА**, начальнік арэнднага прадпрыемства ,,ДарСТЭМ" **Валерый Мікітавіч ЦАЛУЙКА** і прараб будаўнічага ўпраўлення № 89 будтрэста № 13 **Васіль Уладзіміравіч ЦУРУКОЎ** узнагароджаны Ганаровымі граматамі Асіповіцкага раённага выканаўчага камітэта.



## Коратка Аб Розным

### Сустракайце ,,Канкан"

**У верасні ў Асіповічах адбудзецца канцэрт-шоу гродзенскага тэатра гумару ,,Канкан".**

Неаднаразовы лаўрэат і дыпламант міжнародных конкурсаў у жанры эстраднай мініяцюры тэатр, як сцвярджае айчынная прэса, у хуткім часе можа стаць адной з зорак музычнага Алімпа краін СНД. Са слоў арт-менеджэра ,,Канкана" Дзмітрыя Барташэвіча, мініяцюры перспектыўнага калектыву плануецца выкарыстоўваць і на беларускім тэлебачанні замест рэкламных відэаролікаў з калекцыі Бурсіко.

Пасля канцэрта ў Асіповічах наступным пунктам у турнэ ,,Канкана" будзе Бабруйск.

### Рускі дух са смакам Беларусі

**Узаконенае ў краіне двухмоўе, як можна меркаваць, падчас ставіць родную мову нацыі ў ролю падчаркі.**

Так, з нядаўняга часу спіртзавод ,,Каўгарскі" выйшаў на гандлёвы рынак Беларусі з новай прадукцыяй — ,,Ковгарская водка". Не беручы пад увагу смакавыя ўласцівасці гарэлкі, якая вырабляецца з мясцовай сыравіны, вонкавае афармленне напою выканана на расійскай мове. Няўжо кіраўніцтву завода не даспадобы беларускае слова?

### Наляцеў шквал

**У панядзелак шквальны вецер, які абрынуўся на Асіповіччыну, за некалькі хвілін паспеў нарабіць шкоды.**

У горадзе раз'юшаная стыхія з коранем вырвала дрэва каля магазіна ,,Зубр", які размешчаны на аўтазаводскім мікрараёне. А ў вёсцы Свіслач шквал цалкам знёс дах комплекснага прыёмнага пункта і ,,рас-клаў" яго на суседняй сядзібе. На шчасце, у абодвух выпадках абышлося без чалавечых ахвяр.

### На дыскатэку ў новы клуб

**Сёння на станцыі Ясень у ,,новым" клубе, які з'явіўся на месцы былога магазіна райпа, пройдзе першае культурнае мерапрыемства — дыскатэка.**

Афіцыйнае адкрыццё клуба, у якім зараз выканаы толькі частковы касметычны рамонт, адбудзецца праз некалькі тыдняў. Зараз жа, са слоў загадчыка аддзела культуры райвыканкама Васіля Налівайкі, клуб будзе працаваць па тры дні на тыдзень — пятніцу, суботу і нядзелю. У астатні час памяшканне культурнай установы будзе даводзіцца да ладу.

### СНІД — не!

**Адпаведна плану мерапрыемстваў у рамках сусветнай кампаніі супраць СНІД і Сусветнага дня прафілактыкі СНІД да 1 снежня 2000 года на тэрыторыі вобласці будзе праводзіцца акцыя пад дэвізам: ,,СНІД: шмат чаго залежыць ад мужчын".**

Мэтай кампаніі, як паведаміла галоўны інструктар аддзела па справах моладзі Асіповіцкага райвыканкама Жанна Сандрас, з'яўляецца шырокае прыцягненне мужчын да правядзення мерапрыемстваў па прафілактыцы ВІЧ-інфекцый. Пры гэтым акцэнт робіцца на тое, што менавіта мужчыны, якія адносяцца да людзей найбольшай сацыяльнай рызыкі, павінны ўзяць на сябе большую адказнасць за здароўе сваіх партнёраў і сям'і.

Зараз райвыканкамам распрацоўваецца рэгіянальны план у рамках сусветнай кампаніі супраць СНІД.

**Падрыхтаваў Паўлюк КРАВЕЦ.**

*Выбары-2000*

## СЯМЁН ЛІЎШЫЦ БЯРЭ СТАРТ

У чацвер, 10 жніўня, на канферэнцыі працоўнага калектыву Асіповіцкага завода аўтаагрэгатаў адбылося вылучэнне кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па 74-й выбарчай акрузе Сямёна Ліўшыца.

Не дзіўна што, ініцыятарам па вылучэнню кандыдатуры ў беларускі парламент стала менавіта прадпрыемства, якому С.Б.Ліўшыц аддаў шмат гадоў і якое і зараз лічыць для сябе родным. Кіраўнік аўтаагрэгатчыкаў Яўген Шуранкоў прывёў абгрунтаваныя доказы ў падтрымку былога дырэктара АЗАА С.Ліўшыца. І галоўным крытэрыем пры выбары такой кандыдатуры была названа дзейсная і канкрэтная дапамога прадпрыемству, дзякуючы якой большасць вытворчых праблем зведзена да мінімуму. Асобная ўвага адводзілася дзелавым якасцям прэтэндэнта на важкі дэпутацкі мандат, яго неабыякаваму стаўленню да праблем усяго раёна. ,,Зрэшты, — прагучала напрыканцы прамовы з вуснаў выступоўцы, — мы выбіраем свайго кандыдата, які проста выгадны прадпрыемству..."

У падтрымку кандыдатуры, прапанаванай дырэктарам АЗАА, выступіў і начальнік прэсава-зварачнага цэха Валерый Фалькоўскі, дэпутат раённага Савета дэпутатаў.

Сваю кароткую справаздачу аб дэпутацкай дзейнасці данёс людзям і Сямён Ліўшыц. У прыватнасці, акцэнт быў зроблены на эканамічны аспект яго работы ў якасці дэпутата. Прысутныя ў зале мелі магчымасць азнаёміцца з тэхналогіяй прыняцця законаў рэспублікі і некаторымі нюансамі руціннай працы парламентарыяў. Дастаткова падрабязна кандыдат спыніўся на тлумачэнні сваёй пазіцыі ў адносінах да прафесійнай законатворчасці: ,,Краіне будзе лепш, калі ў новы парламент прыйдуць тыя, хто ўжо працаваў там".

Безумоўна, тэматыка пытанняў, з якімі звярнуліся да сённяшняга старшыні пастаяннай камісіі па пытаннях эканомікі некаторыя прысутныя ў зале, насіла самы розны характар. Першым, напрыклад, стаў запыт аб лёсе асіповіцкага даўгабуда — новай бальніцы. Не засталася па-за ўвагай завадчан і ,,папулярызацыя" у горадзе насценнай фашысцкай ідэалогіі праз лістоўкі і лозунгі РНА — Рускага нацыянальнага адзінства. Задаваліся пытанні і аб легітымнасці чарговых выбараў, зменах у Законе аб прафсаюзах, мэтазгоднасці будаўніцтва лядовых палацаў пры агульным збядненні народа, заганнасці калгаснага ладу і нават аб тэрытарыяльнай прыналежнасці Асіповічаў да Мінскай вобласці. На ўсе запыты былі дадзены як суб'ектыўныя, так і аб'ектыўныя адказы.

Завяршылася канферэнцыя ўсеагульным адабрэннем і вылучэннем кандыдатуры Сямёна Барысавіча Ліўшыца кандыдатам у дэпутаты беларускага парламента ад працоўнага калектыву завода аўтаагрэгатаў.

**Павел ЖДАНАЎ.**

## ІНФАРМАЦЫЯ

**аб ходзе ўборкі зерневых і зернебабовых культур у гаспадарках раёна па стане на 10 жніўня 2000 года**

| Гаспадаркі | Убрана (у % да плана) | Намалочана (т) | Ураджайнасць (ц/га) |
|---|---|---|---|
| ,,Усход" | 60 | 932 | 23,2 |
| імя Ульянава | 58 | 486 | 19,5 |
| ,,Чырвоны сцяг" | 56 | 1.192 | 26,3 |
| ,,Чырвоны ўдарнік" | 54 | 2.006 | 28,1 |
| ,,Авангард" | 53 | 1.423 | 26,8 |
| ,,Новы шлях" | 52 | 926 | 21,5 |
| КДГ ,,Ліпень" | 50 | 853 | 26,7 |
| ,,Бальшавік" | 49 | 881 | 23,4 |
| імя Чарняхоўскага | 46 | 372 | 15,7 |
| ,,Камунар" | 43 | 501 | 15,7 |
| ,,Беларусь" | 41 | 519 | 17,1 |
| ,,Першае мая" | 40 | 573 | 21,9 |
| ,,Карытнае" | 39 | 930 | 19,9 |
| імя Леніна | 39 | 753 | 21,0 |
| АГП ,,Пратасевічы" | 37 | 340 | 20,0 |
| ,,Каўгарскі" | 35 | 594 | 22,2 |
| ,,Шлях Ільіча" | 25 | 214 | 19,8 |
| ,,Асіповіцкі" | 17 | 135 | 15,2 |
| ***УСЯГО ПА РАЁНЕ*** | 45 | 13.630 | 22,5 |

## ПЕРАДАВІКІ ЎБОРКІ

### раёна па стане на 10 жніўня 2000 года

**Уладзімір Сяргеевіч КАРАЛЁЎ**, камбайнер калектыўна-долевай гаспадаркі ,,Ліпень", які з пачатку жніва на камбайне ,,Дон-1500А" убраў каласавыя на 129 гектарах і намалаціў 371 тону зерня.

**Вячаслаў Мікалаевіч ХВІШЧУК**, камбайнер калгаса ,,Чырвоны ўдарнік", які з пачатку жніва на камбайне ,,Дон-1500" убраў каласавыя на 109 гектарах і намалаціў 330 тон зерня.

**Аляксандр Іванавіч ЦАЛКО**, вадзіцель калгаса ,,Чырвоны ўдарнік", які на аўтамашыне ГАЗ-53Б з пачатку жніва перавёз ад камбайнаў 499 тон збожжа, у тым ліку за апошні дзень 10.

**Аляксандр Сцяпанавіч ЧЫГІЛЕЙЧЫК**, вадзіцель калгаса ,,Чырвоны сцяг", які на аўтамашыне ЗІЛ-130 з пачатку жніва перавёз ад камбайнаў 486 тон збожжа.

**Валерый Мікалаевіч БАРАШ**, машыніст калгаса ,,Чырвоны ўдарнік", які на зернесушыльным комплексе М-819 прасушыў 1.160 тон збожжа.

**Віталь Уладзіміравіч ГУЛЁК**, машыніст калгаса ,,Першае мая", які на зернесушыльным комплексе М-819 прасушыў 500 тон збожжа.

## СЫПАЕЦЦА ЗБОЖЖА Ў ЗАСЕКІ



...На павароце на вуліцу Юбілейную наш аўтобус абагнаў ЗІЛ-130 з прычэпам. Прычым і кузаў машыны, і сам прычэп былі пакрыты брызентам. І не трэба вялікай дасведчанасці, каб зразумець, што гэты транспарт накіроўваўся на камбінат хлебапрадуктаў. Бо менавіта ў час жніва ўсе дарогі вядуць на гэта прадпрыемства. А пра тое, як сам камбінат падрыхтаваўся да сёлетняй уборкі збожжавых, падзяліўся сваімі думкамі галоўны інжынер прадпрыемства Віктар Міхайлавіч Батура.

Ён расказаў, што да сённяшняга жніва прадпрыемства пачало рыхтавацца яшчэ ў мінулым годзе. Тады ў лістападзе-снежні адрамантавалі адзін з элеватараў камбіната, а другі элеватар — у сакавіку-красавіку гэтага года. Для гэтага была створана спецыяльная брыгада са слесараў, электрыкаў, будаўнікоў. Менавіта іх намаганнямі былі адрамантаваны 4 аўтамабілеразгрузчыкі, столькі ж сепаратараў, дзве высокапрадукцыйныя сушылкі, транспартнае абсталяванне і аўтаматычны пробаадборнік зерня. Адрамантавана і праверана вагавае абсталяванне і абсталяванне камбінатаўскай лабараторыі для вызначэння якасці зерня. Для перавозкі збожжа з калгасаў прадпрыемствам заказаны 6 вялікагрузных машын у ,,Сельгастэхніцы". Між іншым, камбінат прымае збожжа як ад фермерскіх гаспадарак, так і ад прыватных асоб. За суткі ён можа прыняць да 2 тысяч тон, 1 тысячу ачысціць і столькі ж прасушыць.

Сёння на камбінат хлебапрадуктаў вязуць збожжа не толькі гаспадаркі нашага, але і з Глускага і Бабруйскага раёнаў. Перад галоўнымі варотамі камбіната вывешаны дзве дошкі, на якія запісваюцца крэйдай даныя, колькі збожжа паступіла на прадпрыемства з кожнага раёна. На захаванне сюды прывозяць збожжа і прадпрымальнікі — ужо цяпер яны завезлі з Германіі 1.000 тон зерня.

— Усе ёмістасці камбіната разлічаны на прыёмку 130 тысяч тон збожжа, — гаворыць Віктар Міхайлавіч. — А наогул мы можам прыняць увесь ураджай Магілёўскай вобласці. Вядома, я жартую, але гэта прыкладна так.

— Віктар Міхайлавіч, а як у цэлым арганізавана работа вашага калектыву падчас уборачнай кампаніі? — пытаюся ў галоўнага інжынера.

— Дыспетчарскі пункт прымае заяўкі ад гаспадарак з 7 гадзін раніцы і да 22 гадзін вечара. А што датычыцца лабараторыі і элеватараў, то яны працуюць кругласутачна. Прыгадваю, калі здарылася аварыя на Чарнобыльскай АЭС, наша прадпрыемства прымала па 2,5 тысячы тон зерня ў суткі. Як і сёння бачу велізарную чаргу машын. Вельмі багаты тады быў завоз.

— І колькі ж цэхаў сёння налічвае ваш камбінат, якія дзейнічаюць?

— Па-першае, млын, камбікормавы цэх, цэх па выпуску круп, тарны цэх і два элеватары і яшчэ тры дапаможныя цэхі. А што мы выпускаем? Муку пшанічную вышэйшага, а таксама першага і другога гатункаў, жытнюю сеяную і шатраваную. Будзем выраблягь і аўсяную, калі будзе паступаць авёс. І чакаем з гаспадарак ячмень, каб прыступіць да вырабу круп. І яшчэ ў нас адна галоўная задача — надзейна падрыхтавацца да ацяпляльнага сезона.

...Калі пакідаў адміністрацыйны будынак камбіната хлебапрадуктаў, да пробаадборніка пад'ехала чарговая машына са збожжам. І тое, што хлеб паступае сюды, вельмі радуе. Як некалі казалі: ,,Будзе хлеб — будзе і песня".

**А.ЦІМІНСКІ.**

# АБ УТВАРЭННІ ЎЧАСТКАЎ ДЛЯ ГАЛАСАВАННЯ ПА ВЫБАРАХ ДЭПУТАТА ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА АСІПОВІЦКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУЗЕ № 74

**(Рашэнне Асіповіцкага раённага выканаўчага камітэта № 12-9 ад 8 жніўня 2000 года)**

***У адпаведнасці з артыкуламі 17, 18 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь і па ўзгадненню з акруговай выбарчай камісіяй па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Асіповіцкай выбарчай акругі № 74 раённы выканаўчы камітэт РАШЫЎ:***

***Стварыць на тэрыторыі Асіповіцкага раёна наступныя ўчасткі для галасавання па выбарах дэпутата Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па Асіповіцкай выбарчай акрузе № 74:***

**Калінінскі ўчастак № 29**

*Цэнтр — камбінат хлебапрадуктаў.*

У склад участка ўваходзіць паўднёва-заходняя частка горада ў межах ад чыгункі Асіповічы-Мінск па цотнаму баку вуліцы Голанта да вуліцы Энгельса, па няцотнаму баку вуліцы Энгельса на ўсход да гарадской рысы, па гарадской рысе на паўднёвы захад да чыгункі Асіповічы-Слуцк, па гарадской рысе да чыгункі Асіповічы-Мінск, па чыгунцы Асіповічы-Мінск да вуліцы Голанта.

**Кастрычніцкі ўчастак № 30**

*Цэнтр — сярэдняя школа № 3.*

У склад участка ўваходзіць цэнтральная частка паўднёвага боку горада ў межах ад чыгункі Асіповічы-Мінск па няцотнаму баку вуліцы Голанта да вуліцы Энгельса, па цотнаму баку вуліцы Энгельса да гарадской рысы, па гарадской рысе на поўнач да вуліцы Абросімава, па няцотнаму баку вуліцы Рабоча-Сялянскай да вуліцы Сацыялістычнай, па цотнаму баку вуліцы Сацыялістычнай да чыгункі Асіповічы-Мінск, па чыгунцы Асіповічы-Мінск да вуліцы Голанта.

**Сацыялістычны ўчастак № 31**

*Цэнтр — сярэдняя школа № 2.*

У склад участка ўваходзіць паўднёва-ўсходняя частка горада ў межах ад чыгункі Асіповічы-Мінск па няцотнаму баку вуліцы Сацыялістычнай, па гарадской рысе на ўсход да чыгункі Асіповічы-Магілёў, па чыгунцы Асіповічы-Магілёў да вуліцы Сацыялістычнай.

**Жукаўскі ўчастак № 32**

*Цэнтр — сярэдняя школа № 5.*

У склад участка ўваходзіць паўночна-заходняя частка горада ў межах ад чыгункі Асіповічы-Мінск па няцотнаму баку вуліцы Крупскай да вуліцы Дзяржынскага, па няцотнаму баку вуліцы Дзяржынскага на захад да гарадской рысы, па гарадской рысе да чыгункі Асіповічы-Мінск, па чыгунцы Асіповічы-Мінск на ўсход да вуліцы Крупскай.

**Цэнтральны ўчастак № 33**

*Цэнтр — раённы Цэнтр культуры.*

У склад участка ўваходзіць цэнтральная частка паўночнага боку горада ў межах ад чыгункі Асіповічы-Мінск па цотнаму баку вуліцы Крупскай да вуліцы Дзяржынскага, па няцотнаму баку вуліцы Дзяржынскага да вуліцы Сумчанкі, па няцотнаму баку вуліцы Сумчанкі на поўдзень да вуліцы Каданчыка, па цотнаму баку вуліцы Каданчыка на ўсход да вуліцы Я.Купалы, па няцотнаму баку вуліцы Я.Купалы да чыгункі Асіповічы-Мінск, па чыгунцы Асіповічы-Мінск на захад да вуліцы Крупскай.

**Інтэрнацыянальны ўчастак № 34**

*Цэнтр — адміністрацыйны будынак Асіповіцкай дзяржаўнай перасоўнай калоны № 273.*

У склад участка ўваходзіць паўночна-ўсходняя частка горада ў межах ад чыгункі Асіповічы-Мінск па цотнаму баку вуліцы Я.Купалы, па вуліцы Варашылава на поўнач да вуліцы Юбілейнай, па вуліцы Юбілейнай на ўсход, па гарадской рысе да чыгункі Асіповічы-Магілёў, па чыгунцы Асіповічы-Магілёў да вуліцы Я.Купалы.

**Юбілейны ўчастак № 35**

*Цэнтр — сярэдняя школа № 1.*

У склад участка ўваходзіць паўночна-заходняя частка горада ад вуліцы Дзяржынскага на поўнач, па няцотнаму баку вуліцы Сумчанкі (не ўключаючы дом № 47) да вуліцы Юбілейнай, па вуліцы Юбілейнай на захад да гарадской рысы, па гарадской рысе да вуліцы Дзяржынскага, па цотнаму баку вуліцы Дзяржынскага да вуліцы Сумчанкі.

**Школьны ўчастак № 36**

*Цэнтр — сярэдняя школа № 4.*

У склад участка ўваходзіць паўночна-ўсходняя частка горада ў межах ад вуліцы Каданчыка на поўнач па цотнаму баку вуліцы Сумчанкі да дома № 86 (уключаючы дом № 47), на ўсход па гарадской рысе да вуліцы Юбілейнай, па няцотнаму баку вуліцы Юбілейнай да вуліцы Варашылава, па няцотнаму баку вуліцы Варашылава да вуліцы Каданчыка, па няцотнаму баку вуліцы Каданчыка да вуліцы Сумчанкі.

**Будаўнічы ўчастак № 37**

*Цэнтр — Асіповіцкая беларуская гімназія.*

У склад участка ўваходзяць жылыя дамы №№ 49 (корп. 1, 2, 3), 51, 51,,а", 53, 55, 55,,а", 57, 57,,а", 59, 65 па вуліцы Сумчанкі, № 34 па вуліцы Сташкевіча, уключаючы спецшколу-інтэрнат.

**Маладзёжны ўчастак № 38**

*Цэнтр — гарадская бібліятэка № 1.*

У склад участка ўваходзяць жылыя дамы №№ 73, 73,,а", 75, 77 па вуліцы Сумчанкі, №№ 39, 41, 42, 42,,а", 43, 44, 45, 49 па вуліцы Сташкевіча, № 15,,а" па вуліцы 60 год Кастрычніка.

**Аўтазаводскі ўчастак № 39**

*Цэнтр — інтэрнат завода аўтаагрэгатаў.*

У склад участка ўваходзіць жылы мікрараён № 1 завода аўтаагрэгатаў: жылыя дамы №№ 1, 3, 5, 9, 11, 15, 17, 19, 21, 23 па вуліцы 60 год Кастрычніка, №№ 79, 81 па вуліцы Сумчанкі; мікрараён індывідуальнай жыллёвай забудовы Паўночны (вуліцы Абрыкосавая, Дружная, Каштанавая, Магістральная, Рабінавая, Цэнтральная).

**Лясны ўчастак № 40**

*Цэнтр — клуб пасёлка Савецкі.*

У склад участка ўваходзяць пасёлак Савецкі, раён індывідуальнай забудовы ,,Пратасевічы", вуліцы Сонечная, Баразны, Лясная, Ягадная.

**Участак № 41**

*Раённая бальніца.*

**Участак № 42**

*Вузлавая бальніца.*

**Градзянскі ўчастак № 43**

*Цэнтр — рабочы пасёлак Градзянка, Дом культуры пасёлка.*

У склад участка ўваходзіць пасёлак Градзянка.

**Ялізаўскі ўчастак № 44**

*Цэнтр — рабочы пасёлак Ялізава, Дом культуры пасёлка.*

У склад участка ўваходзіць пасёлак Ялізава.

**Татаркаўскі ўчастак № 45**

*Цэнтр — рабочы пасёлак Татарка, сярэдняя школа.*

У склад участка ўваходзіць рабочы пасёлак Татарка.

**Вязьеўскі ўчастак № 46**

*Цэнтр — вёска Вяззе, сельскі Дом культуры.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Вярэйцы, Вяззе, Зборск, Камарына, Леніна, Орча, Паташня, Смык, Цяплухі Вязьеўскага сельсавета.

**Дараганаўскі ўчастак № 47**

*Цэнтр — вёска Дараганава, будынак сельвыканкама.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Дараганава, Камарына, Крынка, Мязовічы, Птушычы, Свіханава Дараганаўскага сельсавета.

**Каўгарскі ўчастак № 48**

*Цэнтр — вёска Каўгары, сельскі клуб.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Каўгары, Краі, Востраў, Сялец, Ульянаўка Дараганаўскага сельсавета.

**Радуціцкі ўчастак № 49**

*Цэнтр — вёска Радуцічы, сельскі Дом культуры.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Лука, Радуцічы, Слопішча Дараганаўскага сельсавета.

**Дрычынскі ўчастак № 50**

*Цэнтр — вёска Дрычын, сярэдняя школа.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Дрычын, Канцы, Крэмок, Маісеевічы, Астроўкі Дрычынскага сельсавета.

**Вялікаборскі ўчастак № 51**

*Цэнтр — вёска Вялікі Бор, сельская бібліятэка.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Вялікі Бор, Дворышча, Жыцін, Заняцечча, Пясчанка Дрычынскага сельсавета.

**Каменіцкі ўчастак № 52**

*Цэнтр — вёска Каменічы, сельскі Дом культуры.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Каменічы, Казімірава, Асавок, Прыцерпа, Цэзарова, Яноўка Каменіцкага сельсавета.

**Карытненскі ўчастак № 53**

*Цэнтр — вёска Карытнае, сельскі Дом культуры.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Дземенка, Караны, Карытнае, Коханаўка, Краснік, Старое Сяло, Сухлава, Тарасавічы, Убалацце, Шыпы Карытненскага сельсавета.

**Жорнаўскі ўчастак № 54**

*Цэнтр — вёска Жорнаўка, сельскі Дом культуры.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Вялікая Грава, Дуброва, Жорнаўка, Зорка, Крычавец, Лочын, Малая Грава, Азярышча, Слабодка, Уборак, станцыя Уборак, Ямпаль Лапіцкага сельсавета.

**Лапіцкі ўчастак № 55**

*Цэнтр — вёска Лапічы, будынак сельвыканкама.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Брадок, Буда, Гоманаўка, Дуброўка, Ялцоўка, Жукаўка, Лапічы, Паляддзе, Ражышча Лапіцкага сельсавета.

**Сасноўскі ўчастак № 56**

*Цэнтр — пасёлак Сасновы, клуб пасёлка.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Вярбілава, ваенны гарадок Лапічы, станцыя Лапічы, Ручэй, пасёлак Сасновы Лапіцкага сельсавета.

**Вязаўніцкі ўчастак № 57**

*Цэнтр — вёска Вязаўніца, сельскі Дом культуры.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Бозак, Вязаўніца, Лабковіца, Малінаўка, Пасекі, Рафалін, Семіровічы Ліпеньскага сельсавета.

**Ліпеньскі ўчастак № 58**

*Цэнтр — вёска Ліпень, сельскі Дом культуры.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Брыцалавічы, Знаменка, Ігнатоўка, Ліпень, Ніччо, Усціж, Хімное Ліпеньскага сельсавета.

**Замошскі ўчастак № 59**

*Цэнтр — вёска Замошша, сельскі клуб.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Агула, Вялікая Гарожа, Брадзішча, Булгары, ваенны гарадок Вялікая Гарожа, Замошша, Засялечча, Ліцвінава, Лучыцы, Малая Гарожа, Акцябр, Асіповічы-2, Асіповічы-3, Ясянец Асіповіцкага сельсавета.

**Осаўскі ўчастак № 60**

*Цэнтр — вёска Осава, сельскі Дом культуры.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Дзераўцы, Дубралева, Задняя Града, Заручэўе, Кляпчаны Мост, Малоціна, Осава, Прудок, Ставішча, Ягаднае, станцыя Дзераўцы Асіповіцкага сельсавета.

**Пагарэльскі ўчастак № 61**

*Цэнтр — вёска Пагарэлае, сельскі клуб.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Амінавічы, Градзянец, Лазовае, Пагарэлае Пагарэльскага сельсавета.

**Верайцоўскі ўчастак № 62**

*Цэнтр — вёска Верайцы, сярэдняя школа.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Верайцы, Вярхі, Дражня, Дубавое, Перарожкі, ваенны гарадок Верайцы Пратасевіцкага сельсавета.

**Пратасевіцкі ўчастак № 63**

*Цэнтр — вёска Забалацце, адміністрацыйны будынак аграгандлёвага прадпрыемства ,,Пратасевічы".*

У склад участка ўваходзяць вёскі Забалацце, Пабокавічы, Паплавы, Пратасевічы, Пратасевічы-II Пратасевіцкага сельсавета.

**Цэльскі ўчастак № 64**

*Цэнтр — ваенны гарадок Цэль, гарнізонны клуб ,,Гвардзеец".*

У склад участка ўваходзяць вёска Цэль, ваенны гарадок Цэль Пратасевіцкага сельсавета.

**Красненскі ўчастак № 65**

*Цэнтр — вёска Краснае, сельскі Дом культуры.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Буда, Галынка, Копча, Краснае, Сталяры, Чучча, Шэйпічы Свіслацкага сельсавета.

**Свіслацкі ўчастак № 66**

*Цэнтр — вёска Свіслач, сельскі Дом культуры.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Баранцы, Вязычын, Навасёлкі, Паліцкае, Свіслач, Слабада, Углата Свіслацкага сельсавета.

**Ясенскі ўчастак № 67**

*Цэнтр — вёска Ясень, сельскі Дом культуры.*

У склад участка ўваходзяць вёскі Аляксандраўка, Вайнілава, Грынёўка, Журавец, Заельнік, Залессе, Люлева, Матавіла, Асяродак, Ражнетава, Татаркавічы, Ясень, станцыя Ясень, Ясянёўка Ясенскага сельсавета.

**Старшыня раённага выканаўчага камітэта В.У.ШЧЭЦЬКА.**

**В.а. кіраўніка справамі раённага выканаўчага камітэта С.Я.ТРАЙЧУК.**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

**Асіповіцкай раённай тэрытарыяльнай выбарчай камісіі па выбарах дэпутатаў раённага Савета дэпутатаў дваццаць трэцяга склікання**

Галасаванне па выбарах дэпутата раённага Савета дэпутатаў па Усходняй выбарчай акрузе № 2 будзе праводзіцца на Калінінскім участку для галасавання № 29, па Юбілейнай выбарчай акрузе № 15 — на Школьным выбарчым участку для галасавання № 36.

**Заўтра — Дзень будаўніка**

# СТЫМУЛЮЕ

З начальнікам прарабскага ўчастка будаўніча-мантажнага поезда № 761 Анатолем Лесіным мы не сталі прыгадваць, якія аб'ёмы работ выкананы гэтым калектывам у мінулым годзе, а засяродзілі сваю ўвагу на тым, што неабходна чыгуначным будаўнікам зрабіць сёлета, чым яны цяпер займаюцца і якія перспектывы на будучыню.

Высветлілася, што з пачатку гэтага года калектывам былі ўзведзены два двухпавярховыя дамы на



Вадзіцель М.М.Балоцька.

станцыі Старыя Дарогі. Там цяпер неабходна правесці аддзелачныя работы і здаць іх у эксплуатацыю ў верасні гэтага года. Частка людзей участка выдзелена на капітальны рамонт вагоннага дэпо, дзе праводзіцца добраўпарадкаванне тэрыторыі і амаладжаюцца фасады вытворчых памяшканняў. Паралельна праводзяцца аддзелачныя работы ў вакзале станцыі Асіповічы. Між іншым, аддзелачная брыгада БМП-761 у 1996 годзе заняла першае месца ў спаборніцтве па дастойнай сустрэчы 125-



Электрамантажнік А.Н.Будзянок, цясляр І.У.Казлоўскі, аператар кацельні М.У.Врублеўскі.

годдзя Беларускай чыгункі і ўзнагароджана адпаведным дыпломам за подпісам начальніка Беларускай чыгункі і старшыні Дарпрафсожа.

Аздараўленне фасадаў праводзіцца ў лакаматыўным дэпо, на электрастанцыі раёна электрычных сетак нашага вузла. Але ледзь ці не галоўная ўвага сканцэнтравана на падаўжэнні пасадачных пасажырскіх платформ на ўчастках Асіповічы-Магілёў і Асіповічы-Жлобін, паколькі дызель-паязды не ўмяшчаюцца на ранейшых платформах. Гэтыя работы праводзяцца ў час так званых ,,акон" – прамежку часу ў раскладзе руху паяздоў, які дазваляецца Упраўленнем Беларускай чыгункі. Анатоль Лесін паказваў нават адпаведныя тэлеграмы на гэты конт.

Калектывам БМП-761 ужо зроблена падаўжэнне пасадачных платформ на прыпыначных пунктах Брыцалавічы, Вялікая Гарожа, Асіповічы-3, Брадзішча, Бібкаўшчына.

– У жніўні-верасні будзем працягваць гэту работу на прыпыначных пунктах Стаялава, Альхоўка, Такары, Гай, Кісялевічы, Данілаў Мост, Амельня, Дачная. І, зразумела, на пасажырскай платформе № 1 станцыі Асіповічы, якую мы павінны закончыць у гэтым месяцы. Хачу адзначыць, што гэта вельмі працаёмкі працэс, які мы распачалі яшчэ ў пачатку мая. І тут мая вялікая ўдзячнасць дырэктару завода жалезабетонных канструкцый Віктару Міхайлавічу Какору, які нам вельмі добра дапамагае. Па першай просьбе пастаўляюцца бетон, раствор, пліты. І затрымак з іншымі будаўнічымі матэрыяламі ў нас няма, – гаворыць Анатоль Лесін.

Я знаёмы з гэтым калектывам не першы год, і мяне здзіўляе пастаянна, чаму тут заўсёды вышэй заработная плата, чым у іншых будаўнічых арганізацыях. Гэта пытанне я і адрасаваў кіраўніку прадпрыемства. І вось што даведаўся. Гэта сцвярджае сам Анатоль Лесін:

– Зарплата ў нас вагаецца ад 40 да 150 тысяч рублёў. Першая прызначана для самых нядбайных працаўнікоў, хаця такіх мы практычна не трымаем, а вось зарплату ў 150 тысяч могуць атрымаць толькі тыя, хто сапраўды працуе. У нас дзейнічае каэфіцыент працоўнага ўдзелу, і я звяртаю ўвагу найперш не на разрады, а на тое, як чалавек сябе паводзіць і якая ад яго аддача. Хай сабе ў нашага работніка будзе, напрыклад, чацвёрты разрад, а працуе ён, апусціўшы рукі, то ён многа не заробіць. Але калі малады работнік з другім разрадам

# В МЕЖРАЙОННОМ

Бобруйским межрайонным Комитетом государственного контроля за семь месяцев этого года проведено 93 проверки предприятий, организаций различных форм собственности, и в 93 установлены нарушения нормативных актов. По их результатам применено экономических санкций на 41771,8 тыс. руб., взыскано в доход государства 33571,6 тыс. руб.

За этот период органам государственной власти и управления было внесено 21

